ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 3-й старонцы

Свабода, роўнасць, братэрства!



# Беларускі Усход

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

● Заснавана ў 1991 годзе ● № 25 (81) ● Пятніца, 31 снежня 1999 г. ● У розніцу кошт 20000 руб.

## З НОВЫМ 2000-м ГОДАМ!



*Страчаем 2000 год! Надзеі, Радасці, Удачы! Весяліся, народ! Здароўя ўсім у прыйдачу!*
Фотаслова Валерыя Бысава

*КОНКУРС ПРЫГАЖУНЬ НА ПРЫЗ "БЕЛАРУСКАГА ЎСХОДУ"*

*Працуе ў Доме піянераў у Крычаве. Скончыла Хабараўскі інстытут культуры.*

*Наталля складае вершы, песні і сама спявае іх.*

*Хто з чытачоў газеты лічыць яе вартай прызавога месца ў конкурсе прыгажунь — выражце гэты здымак з газеты і дашліце ў рэдакцыю "Беларускага Ўсходу".*



Наталля ДУБРОЎСКАЯ.
*Фота Валерыя БЫСАВА.*

## НАВІНЫ, ПАДЗЕІ, ФАКТЫ

### ВУЧАЦЦА ФІЛАМАНЫ

У Крычаве пачаў работу Народны універсітэт філаманаў. Увесь курс навучання разлічаны на тры з паловай месяцы. За час семінараў слухачам будуць прачытаны лекцыі па гісторыі, паліталогіі і эканоміцы.

На адкрыцці прысутнічалі вядучыя спецыялісты ў гэтых галінах, сярод якіх доктар эканамічных навук прафесар Уладзімір Тарасаў.

Пасля заканчэння вучобы і здачы залікаў лепшыя слухачы універсітэта будуць накіраваны ў Польшчу для далейшага навучання.

### КВЗ НЕ ЗАБЫТЫ

У Крычаве ў цэнтральным Доме культуры праходзяць гульні Клуба вясёлых і знаходлівых, у якіх удзельнічаюць школьнікі і студэнты недзяржаўнага тэхнікума.

Праграма КВЗ складаецца з прывітання, размінкі і музычнага конкурсу. Фінал КВЗ плануецца правесці ў лютым 2000 года. Асноўным арганізатарам гульняў з'яўляецца Крычаўскі БПСМ.

### А ДЗЕЦІ МЕРЗНУЦЬ

Невядома па якой прычыне ў дзіцячым садзе N2 г. Крычава дагэтуль не наладжана як след ацяпленне.

Як расказала загадчыца Святлана Сяргееўна Шураўка, тэмпература ў памяшканні 8 снежня была +5, +8°С, у залежнасці ад паверха. Хаджэнне па інстанцыях нічога не дае. Абслугоўваючы персанал і дзеці апрануты ў цёплае адзенне. Што ж будзе, калі стукнуць моцныя маразы? І як прыдзецца ў дзіцячым садзе страчаць Новы год?

М.МАТОРАНКА

### ДА ЗНЯВОЛЕННЯ — ПАЖЫЦЦЁВА!

Калегія Магілёўскага абласнога суда прыгаварыла да пажыццёвага зняволення Пятра Лапікава за учыненае ім зверскае забойства жанчыны ў магілёўскім мікраараёне "Саломінка".

Сваёй віны П.Лапікаў не прызнаў, адмовіўшыся ад паказанняў, якія даваў падчас следства. Аднак рашэннем калегіі ён быў прызнаны вінаватым і прыгавораны да пажыццёвага зняволення ў калоніі агульнага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. У дадатак забойца павінен будзе заплаціць сям'і загінуўшай 1 мільярд рублёў за нанесены ім маральны ўрон.

БелаПАН.

### КРАДУЦЬ ЭЛЕКТРАЭНЕРГІЮ

"Рэкорд" у крадзяжы электраэнергіі паставіў жыхар вёскі Клімаўка Гомельскага раёна Барыс Пятрэнка, які самавольна падключыў бетонамяшалку для будаўніцтва дома і ўкраў электраэнергіі амаль на 204 мільёны рублёў. Добраахвотна плаціць штраф ён адмовіўся і справа на яго перададзена ў суд. А жыхар Пакалюбіч Аляксандр Калеснікаў заплаціў штраф 61 мільён 428 тысяч рублёў. Аднак крадзяжы працягваюцца. Толькі за два месяцы ў гарадах і вёсках Гомельшчыны сума штрафаў дасягнула 1,7 мільярда рублёў.

Уладзімір ПЕРНІКАЎ.

### БАНКІ — КАНКУРЭНТЫ "ЧОРНАГА РЫНКУ"

У апошні час валютчыкам стала цяжка "мець навар". Камерцыйныя банкі сталі прадаваць насельніцтву па 750 тысяч рублёў за долар. Так што грамадзянам Беларусі пры неабходнасці набыць валюту цяпер няма сэнсу рызыкаваць і звязвацца з мяняламі, бо яны і прадаюць даражэй і могуць падсунуць фальшывыя долары.

### СЕМІНАР У ШКЛОВЕ.

У Шклоўскім раёне адбыўся семінар па праблемах сучаснай сям'і, які сабраў не толькі актывістак беларускага Саюза жанчын, але і работнікаў міністэрстваў і ведамстваў, дэпутатаў Нацыянальнага сходу, прадстаўнікоў рэгіянальных органаў Улады, грамадскіх арганізацый. У дыскусіях прыняла ўдзел жонка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Галіна Лукашэнка.

Не тэорыю, а практыку работы па матэрыяльнай і маральнай падтрымцы сям'і, прапагандзе вышэйшых маральных каштоўнасцяў, здаровага складу жыцця, а таксама арганізацыі культурна-масавых мерапрыемстваў вывучалі слухачы семінара-практыкума па праблемах і перспектывах развіцця сучаснай "ячэйкі дзяржавы".

БЕЛТА.

### ДЫРЭКТАР СП — ВЫМАГАЛЬНІК

Арганізаваную кампанію вымагальнікаў затрымалі ў Віцебску супрацоўнікі крымінальнага вышуку. Ахвярай стаў жыхар Масквы, у якога чацвёра вымагальнікаў угналі аўтамабіль "Мерседэс". І за яго вяртанне запатрабавалі 2,5 тысячы долараў ЗША. Аднак у справу ўмяшалася міліцыя, і ўсе члены банды былі затрыманы.

Як высветлілася, капітал такім чынам скалочвалі дырэктар сумеснага прадпрыемства, непрацуючы, і двое братоў — вартаўнік стаматалагічнай паліклінікі і рабочы камерцыйнай фірмы.

Аляксандр ГЕРАСІМАЎ.

### АБ'ЁМ ТАВАРААБАРОТУ ПАВЯЛІЧЫЎСЯ

Па выніках работы за 11 месяцаў 1999 года гандаль Беларсі павялічыў аб'ём рознічнага тавараабароту на 7,3%.

Паводле слоў міністра гандлю Пятра Казлова, прадпрыемствы галіновага ведамства зрушылі з мёртвага пункту свой асноўны рабочы паказчык яшчэ ў маі. З таго часу яны паспяхова забяспечваюць нарошчванне тавараабароту.

БЕЛТА.

## УШАНАВАННЕ ХЛЕБАРОБАЎ

У саўгасе "Мілаславіцкі" Клімавіцкага раёна нядаўна адбылася раённая нарада па ушанаванні перадавікоў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці.

Напачатку з дакладам выступіў начальнік раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання М.Кадаценка. Ён адзначыў, што сёлета загінула ў раёне 40% зернявых. Валавы збор збожжа атрыманы амаль утрая меншы за мінулагодні. І ўсё ж сёе-тое ўрадзіла: у раёне сярэдні ўраджай кармавых караняплодаў склаў 405 ц з га. А ў племзаводзе "Ціманава", эксперыментальнай базе "Раднянская" і саўгасе "Мілаславіцкі" амаль удвая больш.

— Сяльчане Клімаўшчыны, —працягваў дакладчык, — клапоцяцца аб ураджаі будучым. Азімых сёлета пасеяна значна больш леташняга. Калі летась зябліва было ўзарана толькі 10%, то сёлета неўзнятага зябліва пад снег не пайшло і гектара. Словы ўдзячнасці за аказаную дапамогу вёсцы М.Кадаценка адрасаваў працоўным калектывам райагрпрамтэхзабеспячэння, райсельгасхіміі, ПМК, рабочым і служачым прамысловых прадпрыемстваў, навучэнцам ЛТВ і вучням школ. Але найбольшай пахвалы заслугоўваюць непасрэдна тыя, хто вырошчвае хлеб, атрымлівае малако і мяса. Спіс перадавікоў зачытала намесніца начальніка райсельгасхарчу па эканоміцы Л.Ісачанка. Сярод перадавікоў адзначаны сямейны экіпаж камбайна ДОН-1500 у складзе Васіля Белаштэнтава і яго сына Аляксея, браты Уладзімір і Юрый Цэпелавы і многа іншых.

Вялікі шэраг механізатараў і жывёлаводаў былі ўзнагароджаны ганаровымі граматамі, адзначаны грашовымі прэміямі ад 58 да 116 мільёнаў рублёў.

Не абыйдзены і прадстаўнікі абслугоўваючых гаспадаркі прадпрыемстваў.

Першы сакратар райкома БПСМ А.Асмалоўская зачытала пастанову аб узнагароджанні лепшых маладых хлебаробаў.

Удзельнікаў раённай нарады перадавікоў вітаў і сардэчна павіншаваў з прафесійным святам першы намеснік старшыні аблсельгасхарчу В.Скрыннік. Ён уручыў Ганаровую грамату аблвыканкама камбайнеру Сяргею Фёдараву з племзавода "Ціманава".

Вядучы нарады старшыня райсавета народных дэпутатаў С.Баранаў зачытаў вялікі спіс працаўнікоў гаспадарак, а М.Кадаценка ўручыў усім ім грашовыя прэміі.

У заключэнне адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці.

Іван ЛАПО,
рэдактар аддзела райгазеты "Родная ніва".

### ПРЭЗІДЭНТ АБЕЛАРУШВАЕЦЦА?

У апошні час А.Лукашэнка паварочваецца тварам да беларускасці. Ён пасля падпісання вядомай дамовы сказаў: "Захаванне суверэнітэту і незалежнасці застаецца для мяне прыярытэтам". А нядаўна ён распарадзіўся выдзеліць чатыры мільярды трыста мільёнаў рублёў з рэзервовага фонду Прэзідэнта РБ на адліўку з бронзы помніка беларускаму асветніку Францыску Скарыне.



## Как встречают Новый год?



**В Японии** до сих пор верят, что с первой секунды Нового года человек переступает невидимый порог, за которым предначертан поворот судьбы. Японцы стараются в этот день приобрести ракетку —принадлежность традиционной новогодней игры. По преданию, это один из способов отвести от человека несчастье в наступающем году.

**В Италии** малышам рассказывают сказки о старой волшебнице Бефане, которая проникает в дом через печную трубу и кладет подарки детям в башмачки.

**В деревнях Либерии** испокон веков повелось такое правило: преподносить уважаемому гостю орех Кола в знак дружеского расположения. Орех оказывает тонизирующее действие.

**У некоторых индейских племен в Мексике** существует обычай, выражать добрые пожелания в виде рисунка солнышка на щеке. Поздравляющий рисует на щеках поздравляемых аккуратные кружочки с расходящимися в разные стороны лучами.

**В Англии** повсюду развешивают ветки магической омелы. Колокола сначала приглушенно и печально гудят по умирающему году, а в полночь громко вызванивают радость встречи с Новым годом.

**В Швейцарии** толпа ряженых вышагивает от дома к дому. В такт шагам звенят колокольцы, гудят ботала. Главное украшение ряженых, одетых в национальные костюмы — головной убор. Шляпы ряженых из картона, бумаги, обрезков материи возвышаются вроде больших тортов, украшенных разноцветными лампочками. На них сооружаются целые деревни с пастухами, стадами овец, различными сценками деревенской жизни. Крестьяне верили, что страшными масками, звоном колокольчиков можно отпугнуть злых зимних духов, которые вместе с холодами спускаются с гор

**Жители Гаваны** перед Новым годом наполняют кувшины водой, а на Новый год выливают ее из окон — пусть старый год улетит, как прозрачная струя воды!

**Европейцы, живущие в Австралии и Новой Зеландии**, придерживаются своих обычаев и празднуют те же праздники. Но, поскольку эти страны находятся в южном полушарии, Новый год приходится встречать знойным летом. Да и ёлки там не растут. Однако как будто специально к празднику в Новой Зеландии перед Новым Годом расцветает одно из красивейших деревьев, которое так и называют — "Новогодним" — kristmasvad. На языке же аборигенов оно называется пахутокава. В праздничные дни дерево покрывается крупными ярко-пурпурными и крупными красивыми цветами.



● *Ці выйду замуж у Новым годзе?*

## ПАВАРАЖЫ!

Хто не хоча хоць крайком вока зазірнуць у сваю будучыню? Напярэдадні Новага года гэта зрабіць зусім лёгка. Самае большае распаўсюджанне атрымала варажба маладых дзяўчат аб замужжы. Амаль ва ўсіх народаў Еўропы ў якасці прадмета варажбы служыў хатні абутак. Чаравікі кідалі *праз плот, з ганка, ў вакно, праз вароты, нават праз вільчык хаты.* І калі чаравік падаў наском да хаты, значыць дзяўчына ў новым годзе абавязкова выйдзе замуж.

А заможнасць будучага мужа правяралі такой варажбой: жменю квасолю ў навагоднюю ноч клалі пад падушку, а раніцай 1 студзеня, прачнуўшыся, даставалі наўгад адну квасоліну. *Калі траплялася ачышчаная квасоліна* — жаніх гол, як сакол. Калі ж квасоліна з шалухой — багаты будзе жаніх.

**У Італіі** сялянкі 1 студзеня набіралі з калодзежа вады. Дома, умыўшыся ёю, дзяўчыны выплёсквалі ваду на вуліцу і заміралі ля вакон, назіраючы, які мужчына першы пройдзе па "мокраму". Такім і будзе выглядаць жаніх.

**У Галандыі** дзяўчаты імкнуцца ў навагодні дзень быць асабліва рупатнымі. Па стараму павер'ю, тая з іх, якая не паспее перарабіць усе патрэбныя справы да захаду сонца, ні за што не выйдзе замуж у наступаючым годзе.

**Англічанкі** верылі, што можна ўбачыць суджанага, калі разрэзаць яблык на дзевяць частак і, стоячы перад люстэркам, з'есці восем долек, а астатнюю кінуць праз левае плячо.

**У Скандынавіі** бытуе павер'е, як можна зачараваць хлопца. Калі ў навагоднюю ноч дзяўчына пачастуе яго вінам, у якое дадасць некалькі кропелек сваёй крыві, хлопец прысохне да яе усім сэрцам. Гэты напой кахання лічыўся верным, праверыным вякамі і сродкамі.

**У Польшчы** дзяўчаты прыносілі ў хату бярэма дроў і, кідаючы ля прыпечка па аднаму палену, прыгаворвалі: "Кавалер удавец, разжэня, кавалер, удавец, разжэня..."

Па слову, што прыдзецца на апошняе палена, меркавалі, хто будзе мужам.

**У наш час** "прадказанні" ў навагоднюю ноч сталі проста гульнёй, хоць "варожыць" па традыцыі многія яшчэ спрабуюць, але па-сапраўднаму ўжо мала хто ў гэта верыць.

**І ўсё ж такі, давайце-ка сёння паварожым, а раптам...**

● *Куток гаспадыні*

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### ПАХЛЁБКА "МІНСК" (1 порцыя ў гаршчочку)

*Курыца — 300 г., бульба — 3 шт., масла сметанковае— 25 г, морква — 0,5 шт., баравікі сушаныя — 25 г, цыбуля — 0,5 шт., корань пятрушкі — 0,5 шт., смятана — 2 ст. лыжкі, тамат-паста — 1 ч. лыжка, спецы, зеляніна.*



У гліняны гаршчочак пакласці паўзвараную курыцу, нарэзаную кавалачкамі, адвараныя грыбы, абсмажаную цыбулю, пятрушку, спецы, заліць курынай юшкай з дабаўленнем грыбнога адвару, паставіць у рускую печку ці ў духоўку на 15-20 хвілін, заправіць пахлёбку абсмажанай на масле таматнай пастай і пагатаваць яшчэ 3-5 хвілін.

Пры падачы на стол запраўіць смятанай і пасыпаць зелянінай.

### СУП БУЛЬБЯНЫ З САЛАМ

*Шпік — 80 г, бульба — 5-6 штук, вада — 1,5 л, цыбуліна — 1, зеляніна, соль па смаку.*

Бульбу парэзаць кубікамі, апусціць у вар, пасаліць, гатаваць 20-30 хвілін.

Суп заправіць падсмажанай цыбуляй з салам, пасыпаць зелянінай.

### СЛАДКОЕЖКАМ

*Вот кому раздолье за новогодним столом — к этому случаю в каждом доме пекут пироги, торты, печенья... Вот вам рецепт одного из вкусных и красивых тортов.*

6 яиц, по 6 ст. ложек муки и сахара, 2 столовые ложки какао смешать, выпечь корж. Когда остынет — разрезать его острым ножом вдоль на 2 части. Отдельно приготовить сироп для пропитки коржей (со 150 г сахара и стакана воды) и крем. Делают его так: 6 столовых ложек муки растворить в 0,5 л молока, довести до кипения, охладить; по 250 г сахару и маргарина растереть в пышную массу, смешать с остывшим молоком. Теперь нижний корж пропитываем половиной сиропа, намазываем половину крема, сверху укладываем верхнюю половину коржа, также пропитываем и выкладываем сверху весь оставшийся крем.



Украсить этот праздничный торт можно шоколадной глазурью: растопить на водяной бане плитку шоколада, добавить 6 столовых ложек сахара, столько же воды, залить торт и поставить в холодильник. Можно использовать для украшения плоды и ягоды из компота, варенья, а можно верхний слой крема "подцветить", добавив в него несколько капель свекольного сока.

### КОКТЕЙЛИ



#### "ЧЕБУРАШКА"

Около половины стакана земляничного или другого ароматного варенья взбить со стаканом охлажденного молока и половиной стакана сливок до пены, сверху посыпать натертым на терке шоколадом.

#### "КРАСНАЯ ШАПОЧКА".

1 кг моркови натереть на мелкой терке, залить половиной стакана холодной воды, оставить на два часа. Затем отжать через марлю, добавить клюквенный сок (около стакана), сок одного лимона или пол чайной ложки лимонной кислоты, сахар по вкусу, взбить венчиком.

**Приятного вам аппетита и счастливого Нового года!**

* * *

### ЛЕЖНИ КАРТОФЕЛЬНЫЕ

Отварной горячий картофель протереть, смешать с сырыми яйцами. Квашеную капусту потушить, заправить солью, перцем, обжаренным на сале луком.



Подготовленную картофельную массу выложить на обсыпанную мукой доску, разровнять, положить на нее фарш из капусты с луком, закрыть его частью картофельной массы, положить на смазанный салом лист, смазать жиром и запечь в духовке. Разрезать на куски, подать на стол лежни со сметаной.

*600 г картофеля, 200 г капусты, 500 г лука, 100 г шпика, 4 яйца, 2 ст. ложки муки, 0,5 стакана сметаны, соль, перец.*

● *А вы чулі пра гэта?*

### Састарэлая іголка

Колькі год іголцы? Ні многа ні мала — дзесяць тысяч гадкоў! Праўда, тая іголка касцяная, а знайшлі яе пры раскопках старажытнага паселішча ў паўднёва-ўсходняй частцы штата Вашынгтон (ЗША). Неверагодна, але факт: ёю можна шыць і зараз.

### Вырошчваюць, ды не ядуць...

Лас-Педраньерас, што ў гарах Ла-Манша, карыстаецца ў Іспаніі вядомасцю: яго называюць "часночнай сталіцай". Тут атрымліваюць штогод да 40 тысяч тон галовак часнаку. Палову ўраджаю закупляюць краіны Лацінскай Амерыкі, дзе яго вельмі шануюць за пякучы смак і моцны, стойкі пах...

Здавалася б, што жыхароў Лас-Педраньераса можна пазнаваць па паху... Ніколечкі! Яны часнок не ядуць...

### Ну і Японцы!

Аб зубным болю людзі хутка забудуць, сцвярджае спецыяліст па геннай інжынерыі Айдзо Мацусіра. І дапаможа ім у гэтым бактэрыя, якую выявілі японскія вучоныя. Яна выдзяляе рэчыва, здольнае раскладаць шкодны налёт на зубах. Разводзіць гэтую бактэрыю ў арганізме чалавека зусім не абавязкова. Вучоныя знайшлі спосаб укараняць часткі генетычнага кода мікраарганізма ў гены бактэрый, якія жывуць у кішэчніку чалавека.

### Рэкордны ўдой

82,15 літра малака за дзень. Такі быў сутачны ўдой, атрыманы 19 лютага 1941 года ад каровы Вена яраслаўскай пароды ў калгасе "Дамшынскае" Валагодскай вобласці (даярка Н.І.Груздзева). Уявіце толькі — восем вёдзер з гакам малака ў дзень ад адной каровы!

На Кубе гэты рэкорд быў пабіты толькі 23 чэрвеня 1982 года. Тады за суткі карова па мянушцы Урбе Бланка дала 109,3 кг малака. Звычайна лепшыя каровы Яраслаўскай пароды даюць у сярэднім за суткі 15 літраў малака.

Найвышэйшы ў свеце гадавы надой малака — 20 тысяч літраў. Гэтага рэкорду дабіліся ад каровы галандскай пароды, самай старажытнай і лепшай з усіх парод малочнага напрамку.

### Каштаны змагаюцца з забруджваннем

Біяхімікі эксперыментальна даказалі, што каштаны — ідэальныя ачышчальнікі гарадскога паветра. Лісце аднаго дрэва вышынёй дзесяць метраў нейтралізуе выхлапныя газы аўтамабіляў, якія ўтрымліваюцца ў ста з лішкам кубічных метрах забруджанага паветра.

### Адным сказам

У краіне штогод рэгіструецца 300-500 тысяч выпадкаў заражэння хваробамі, якія перадаюцца палавым шляхам.

* * *

У апошнім дакладзе ААН аб распаўсюджанні СНІДу гаворыцца, што сітуацыя пагаршаецца і сёлета ад яго памруць 2,6 мільёна чалавек.

* * *

У Беларусі ў 1996 годзе былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за занятце прастытуцыяй 57 жанчын, у 1997 годзе — 80, а летась — 179.

### Самара — супраць дамовы?

"Падпісанне дамовы не адпавядае інтарэсам народаў абедзвюх краін", — заявіў губернатар Самарскай вобласці Канстанцін Цітоў. На ягоную думку, асноўны адмоўны момант дамовы — гэта тое, што вышэйшы выканаўчы орган — Савет Саюза — не выбіраецца, а прызначаецца. "Мы губляем пэўныя дэмакратычныя заваёвы ў выбарнасці ўлады", — лічыць Цітоў.

### Бухгалтар — махлярка

Васемнаццаць разоў за леташні і сёлетні гады галоўны бухгалтар аднаго з гомельскіх прадпрыемстваў В.Д. клала ў сваю кішэню ад 2 да 12 мільёнаў рублёў.

Але колькі вяровачцы ні віцца...

Тое ж самае можна сказаць і пра нідзе не працуючую гамяльчанку С.Д., якая яшчэ ў 1996 годзе падрабіла неабходныя дакументы для атрымання ў банку крэдыту. Зламысніцу таксама вывелі на чыстую ваду адпаведныя органы.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**




### ВЫХАДНЫЯ ДАНЫЯ

**"Беларускі Усход"**. Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Маркаўка. Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 22-9-89, намесніка гал. рэд. — 22-00-9.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

Адказнасць за даставернасць фактаў, падзей, прозвішчаў і іншай інфармацыі нясуць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 30 снежня 1999 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Тыраж 2667 экз. Аб'ём І друк. аркуш. Заказ № 25.

**Галоўны рэдактар В.А. ДАЎГАЛЁЎ.**